# Вялікі

Не самая гэта прыемная справа — прызнацца, напрыклад, маме, што ты, а не сястра і не сябар, разбілі яе кубак, з якога яна штораніцы п'е сваю каву.

Няпроста сказаць тату, што табе не балеў жывот, калі ён прасіў цябе дапамагчы яму расчысціць снег каля машыны.



Зусім непамысна сказаць бабулі, што ты не ведаеш, ці ёсць патрэбныя ёй лекі ў аптэцы, бо ты забыўся папытаць пра гэта, хоць і зманіў бабулі, што лекаў няма.



# цуд



А як не варочаецца язык, калі трэба прызнацца, што двойку ты зарабіў, бо зашмат гуляў на камп'ютары ўчора, а сёння так лёгка сказаў маме з татам, што пераблытаў урокі!

Ну а ці ж лёгка прызнацца сябру, што ўчора ты выхваляўся перад ім і казаў няпраўду?

Цяжка. Усё гэта цяжка й няпроста зрабіць. Але калі ўсё ж пераможаш сябе, як жа лёгка будзе потым! А калі ва ўсім гэтым ты прызнаешся Таму, Хто табе ўсё за адзін раз прабачыць і не будзе пра гэта нагадваць, але адорыць цябе сваім сяброўствам? Гэткі цуд здараецца кожны раз з намі пасля споведзі... Такі вялікі цуд...

*«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 1 (75)/2017 г.*
*Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ.*
*220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.*
*Касцёльны кансультант — кс. Дзмітрый Пухальскі, рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,*
*мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.*
***Адрас для лістоў:** а/с 101, 220002 г. Мінск-2; **e-mail:** m.rycar@yandex.by*
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 2 000 экз. Заказ № 271.
Падпісана да друку 06.03.2017 г. Надрукавана ў ПУП «Джи энд Ди»
Ліцэнзія № 02330/362 ад 06.05.2013. Вул. Бурдзейнага, 37-191, 220136, г. Мінск.

# ПЯЦЬ УМОВАЎ



Сярод гэтых пяці ўмоваў няма нічога лішняга. Кожны раз, калі ты вырашыш прызнацца перад Панам Богам у сваіх грахах і правінах, табе абавязкова трэба выканаць усе гэтыя ўмовы дзеля таго, каб твая споведзь была сапраўднай.



1. Рахунак сумлення
2. Жаль за грахі
3. Цвёрдае пастанова выправіцца
4. Шчырая споведзь
5. Выкананне прызначанай пакуты









# Сем галоўных грахоў





Яны ўсе могуць змясціцца ў тваім сэрцы і моцна забрудзіць яго. Калі брудны твой твар — усе гэта бачаць. Калі ж бруднае сэрца — гэта бачыць Бог. Таму так важна часта ачышчаць сэрца ў сакрамэнце споведзі.





1. Пыха
2. Хцівасць
3. Зайздрасць
4. Гнеў
5. Распуста
6. Неўмеркаванасць ў ежы і піцці
7. Лянота









*У афармленні старонкі выкарыстаныя малюнкі Вольгі Важнік, Мікіты Арлоўскага, Аляксандры Хамяковай.*



# НАВОШТА СПАВЯДАЦЦА?

***Госць часопіса — ксёндз Аляксандр Грыцкевіч***

*— Шаноўны ксёндз Аляксандр! Адзін мой сябар кажа, што калі б не споведзь, то яму ўсё падабалася б у Касцёле. А споведзь, кажа, — гэта так непамысна... Кожны раз, калі маці нагадвае пра яе, у яго псуецца настрой і ён тады стогне: «І хто яе толькі прыдумаў на нашую галаву, гэтую споведзь?» Што параіце майму сябру і ўсім нам?*

— Сапраўды, калі чалавек не ўсведамляе глыбініі ласкі гэтага сакрамэнту, то для яго споведзь будзе падобна на візіт да стаматолага: не хочацца, непрыемна, страшна, балюча. Але трэба! Бо калі не залячыць хворы зуб, яго трэба будзе вырываць, а гэта яшчэ балючэй. Таму да споведзі трэба хадзіць рэгулярна, каб грахі, якія можна вылечыць міласэрнай ласкай Хрыста, не давялося цягнуць абцугамі Божай справядлівасці.



*— Скажыце, а гэта праўда, што чым часцей чалавек спавядаецца, тым лепшым ён робіцца?*

— Лепшым чалавек робіцца тады, калі як мага больш прабывае ў Божай ласцы. А каб Бог быў у сэрцы чалавека, адтуль трэба выдаляць грэх. Гэта — як наш пакой у доме. Калі мы пастаянна яго прыбіраем, складваем цацкі, наводзім парадак на стале, выціраем пыл з паліцаў, то ў пакоі прыгожа і ўтульна. Калі ж прыбіраемся ў ім раз на год, то там брыдка й непрыемна. Таму, каб узрастаць у Божай ласцы і станавіцца лепшым, святары раяць спавядацца прыкладна раз на месяц.

*— А калі мінула ўжо даволі часу ад апошняй споведзі, нібыта трэба ўжо ісці зноў, а грахоў няма. Што тады рабіць?*

— Сітуацыя, калі грахоў няма, увогуле нерэальная для чалавека. Немагчыма пражыць цэлы месяц і, напры-

клад, не сказаць лішняга, кагосьці не абгаварыць, не падумаць пра кагосьці дрэнна, камусьці не дапамагчы. А грэх ляноты, занядбання, марнавання часу за камп'ютарам? Хто з нас не мае гэтых грахоў? Таму трэба толькі зрабіць добры рахунак сумлення, і тады думка, што грахоў у цябе няма, адразу знікне.

*— Некаторыя мае сябры запісваюць свае грахі ў нататнік, каб не забыцца потым прызнацца ў іх. Можа й правільна гэта, бо я часта штосьці забываю, асабліва, калі гэта даўно было. Ці трэба нам весці такі ўлік грахоў?*

— На мой погляд, гэта не вельмі добрая практыка, асабліва для маладога чалавека. Старэнькія бабулі то няхай сабе запісваюць, бо памяць у іх сапраўды слабая. Маладога ж чалавека такое запісванне прывучае да няўважлівасці і недысцыплінаванасці ў духоўным жыцці. А ўяві сабе, Яська, што ты сабраўся да споведзі і забыўся дома сваю цыдулку з грахамі? І што цяпер — адкладзеш споведзь на «потым»? Не раю! Таму, сябры, прывучайце сябе да духоўнай дысцыпліны.

*— Ну а цяпер скажыце нам, калі ласка: гэта праўда, што святары не памятаюць нашых грахоў? Бо часам сходзіш да споведзі, а потым неяк сорамна са святаром сустрэцца бывае…*

— Калі святар спавядае некалькі дзясяткаў людзей на працягу некалькіх гадзін, то проста фізічна немагчыма запамятаць грахі ўсіх людзей. Ды й навошта гэта яму? Ці ў яго мала клопату? Таму не трэба баяцца, што вашыя грахі адкладуцца ў памяці спаведніка. Найчасцей яны ў адно вуха ўлятаюць, а з другога вылятаюць 🙂

*— Мая бабуля кажа, што калі чалавек пасля споведзі моліцца і просіць чагосьці ў Пана Бога, то Ён ахвотней яго выслухае. Гэта праўда?*

— Само сабой! Пасля споведзі чалавек знаходзіцца ў стане асвячальнай ласкі, гэта значыць, што наша сувязь з Панам Богам больш моцная і трывалая.

*— Хутка Вялікдзень. Шмат дзяцей пойдзе напярэдадні да споведзі. Што Вы пажадаеце ўсім нам?*

— Жадаю адсвяткаваць Вялікдзень са шчырым сэрцам, напоўненым радасцю Уваскрослага Хрыста. А каб гэтая радасць была ў вашах сэрцах, жадаю добра падрыхтавацца да споведзі праз грунтоўны рахунак сумлення, шчыра паспавядацца, умацавацца Целам Хрыста ў сакрамэнце Эўхарыстыі. І тады вы адчуеце, што Уваскрослага Пана Езуса праслаўляе не толькі Касцёл, але і вашае радаснае сэрца.

*— Дзякуй, ксёндз Аляксандр, за цікавую гутарку. Мы ўсе таксама жадаем Вам вясёлых, радасных святаў!*

*Гутарыў Яська Запытальнік.*

*Ленэ Майер-Скуманц*

# СПОВЕДЗЬ



Пробашч запрасіў Себасцьяна і яго сяброў на размову аб прымірэнні.

— Вы маеце на ўвазе споведзь! — усклікнуў Стэфан. — Мая бабуля сказала, што я павінен напісаць усе свае грахі, каб нічога не забыцца сказаць. Але мне няма чаго казаць!

Пробашч здзівіўся:

— Няўжо няма?

— Я не ведаю ніякіх сваіх правінаў, — патлумачыў Стэфан. — Таму не прыйду.

— Думаю, мне таксама няма чаго прыходзіць, — хуценька дадаў Себасцьян.

— Хвілінку, мае дарагія, — сказаў пробашч. — Я хацеў бы з кожным з вас пагаварыць сам-насам. Незалежна ад таго, хочаце вы ўдзельнічаць у сакрамэнце паяднання, ці не.

Стэфан зірнуў на Себасцьяна. Той пацiснуў плячыма:

— Калі толькі пагаварыць, то можна...

— Добра, — згадзіўся Стэфан. — Тады і я прыйду.

Пакой у пробашча вялікі і светлы. На стале ў яго стаіць ваза з садовымі фіялкамі. Фіялкі прыемна пахнуць.

— Мне, прызнацца, дзіўна, — звярнуўся пробашч да Стэфана, — што ты не ведаеш ніякіх сваіх правінаў. Думаю, у кожнага чалавека здараюцца памылкі.

— І ў Вас таксама?



— Яшчэ як! — сумна ўсміхнуўся пробашч.

— Што, напрыклад?

— Адна з маіх правінаў, — уздыхнуў пробашч, — гэта тое, што часта вечарамі я чытаю да глыбокай ночы, а раніцаю ў мяне кепскі настрой. Я бурчу на міністрантаў, я стагну: «О-о, зноў...», калі звоніць тэлефон; я пытаюся ў фраў Монікі, ці сапраўды нясмачная карычневая жыжка ў маім кубку — гэта кава... Потым, каля дзевяці ці паловы дзясятай, я зноў станаўлюся нармальным. Я прашу прабачэння ў сваіх супрацоўнікаў за тое, што быў такім бурклівым, і абяцаю сабе, што вечарам выключу святло ў адзінаццаць... Але гэта адна з маіх правінаў. Ёсць яшчэ іншыя...

Стэфану хочацца суцешыць пробашча:

— У мяне таксама раніцаю часта бывае дрэнны настрой. Калі я вечарам доўга глядзеў тэлевізар... тады за сняданкам я не выношу сваёй сястры. Ад яе голасу ў мяне баліць галава. Я гыркаю на яе, каб яна закрыла рот. Мама сварыцца на мяне, а я шчыплю сястру. Здараецца, што мы нават штурхаемся. Тата пачынае сварыцца. Так што часам я псую ўсім снеданне. Мабыць таму, што вечарам занадта доўга... Словам, я Вас разумею!

— Табе дазваляюць гэтак позна глядзець фільмы?

— Не. Не дазваляюць. Я ўпотайкі сяджу перад тэлевізарам у татавым кабінеце, а ўсе — на тэрасе. Яны думаюць, што я ў ложку.



— А ў школе? — пытаецца пробашч. — Там ты ладзіш з іншымі?

Стэфан задумаўся:

— Не заўсёды... З Себасцьянам найчасцей ладзім, а з П'ерам амаль ніколі. Ён такі задавала! Учора я даў яму падножку, і ён — шлёп! бум! — і прызямліўся на жывот. А яшчэ дзюдаіст!

— А ты таксама займаешся дзюдо?

— Мне нязручна, надта далёка ездзіць на трэніроўкі.

— Але ты хацеў бы трэніравацца?

— Вядома. І Себасцьян таксама. І Кенан!

— А чаму вы не папросіце П'ера, каб ён вас трэніраваў?

Стэфан утаропіўся на пробашча:

— Што?

— Ну, калі П'ер сапраўды такі майстар...

— Дзіўная ідэя, — бурнуў Стэфан. — Думаеце, ён не адмовіўся б?

— Не ведаю, — пацiснуў пробашч плячыма. — Трэба спытаць у яго... А цяпер скажы, як ты ладзіш з Богам.

Стэфан задумаўся:

— Думаю, нядрэнна. У любым выпадку, лепш, чым з сястрой.

— Ты часта з Ім размаўляеш?

— Вы маеце на ўвазе малітву? Ну-у... Час ад часу. Калі бабуля нагадае.

Але Бог радуецца, калі ты ў цішыні размаўляеш з Ім. Калі вечарам проста абмяркоўваеш з Ім свой дзень. Калі раніцаю кажаш: «Беражы мяне, Божа, я хачу належаць толькі Табе!» Бог дапамагае





нам навесці парадак, калі нешта ў нашым жыцці заблыталася. І калі мы шкадуем за свае правіны, Ён адорвае нас сілаю, каб іх выправіць. А цяпер ты шкадуеш за свае правіны?

— Ну... Я бачу, што часам раблю дурноту...

— А што ты бачыш у сабе добрае?

Стэфан здзівіўся:

— У мяне? Добрае?

— Безумоўна, яно ў цябе ёсць.

— Напэўна, — сумеўся Стэфан. — Я чытаю кнігі з Клаўдыё, дапамагаю бабулі ў садзе і тату ў майстэрні. І яшчэ я спец па дэсэртах з марозіва.

Пробашч падумаў і сказаў:

— Ну што, Стэфан, калі хочаш, то цяпер мы можам здзейсніць чын сакрамэнту паяднання з Богам. Ён кажа табе: «Усё зноў у парадку». Ён любіць цябе такім, які ты ёсць, з тваімі добрымі і не вельмі добрымі ўчынкамі. Ён хоча дапамагчы табе лепш ладзіць з іншымі людзьмі. Ты згодны?

— Канешне, — згадзіўся Стэфан.

Пробашч прамовіў над хлопцам словы разграшэння і благаславіў.

— А цяпер ідзі і прышлі да мяне Себасцьяна.

Ужо ў дзвярах Стэфану прыйшла ідэя.

— А я ведаю адну фішку для Вас.

— Фішку?

— Так. Вечарам пастаўце будзільнік на адзінаццаць. І ён — р-раз! дз-дзынь! — і адарве Вас ад найцікавейшай кнігі. А тады ўжо думайце, адкласці яе ці не.

— Дзякуй, Стэфан! Класная ідэя!

Стэфан прытрымаў дзверы для Себасцьяна і шапнуў яму:

— Усё было не складана.

*Пераклад з нямецкай мовы Ірыны Бурак.*

*Паводле: Mayer-Skumanz, L. « Anna und Sebastian. Geschichten zum Lesen und Weiterdenken ». — Freiburg, 2003.*

*Мастак Вольга Чарняўская.*




# НАМ МЫ РАСЦЕМ

А ці ведаеце вы, сябры, колькі нам гадоў? Нам, гэта значыць нашаму часопісу? Цэлых 20 гадоў спаўняецца нам у гэтым годзе! Вось вам і «Маленькі рыцар Беззаганнай»! Як кажуць у такіх выпадках, прымаем віншаванні!

У сувязі з гэтай слаўнай датай мы прапануем тым нашым чытачам, якія былі дзецьмі гадоў 20–15 назад і чыталі наш часопіс, а можа нават былі ягонымі аўтарамі альбо героямі, адгукнуцца! Бо цікава ж, якімі вы сталі цяпер?

Напрыклад, у самым першым нумары часопіса быў здымак Вітака Жарнасека з Наваполацка, які адважна так паклаў руку на спіну львіцы і сфатаграфаваўся з ёю. Мы запрашалі нашых чытачоў такім чынам дасылаць свае здымкі на прыродзе, са звярамі, птушкамі ды самымі рознымі жывымі істотамі.



Вось такі ён быў, хлопчык Вітак, у той час...



А гэты здымак зроблены зусім нядаўна. На ім — той жа герой. Адно што вырас і стаў сапраўдным мужчынам. Настолькі сапраўдным, што ўжо мае сына — Янку. Спадзяемся, Янка таксама будзе нашым чытачом, аўтарам і героем.

*І. Студзеньская*





# 20!




# СУСТРЭЧА З ЧЫТАЧАМІ




Кожны часопіс становіцца найбольш цікавым тады, калі ў ім гучыць слова не толькі супрацоўнікаў рэдакцыі, але і тых, да каго ён скіраваны. Таму, сябры, мы заўсёды рады, калі вы дасылаеце нам свае лісты, пішаце пра парафіяльныя справы, пра тое, што вас хвалюе. Калі вы адгадваеце нашы загадкі, дасылаеце свае малюнкі, удзельнічаеце ў нашых конкурсах.

Мы таксама заўсёды рады сустракацца з вамі непасрэдна ў вашых парафіях, адказваць на вашы пытанні, слухаць вашы навіны. Гэта заўсёды цікава і падказвае нам тэмы для будучых нумароў.

Вось нядаўна такая сустрэча адбылася ў касцёле святых Сымона і Алены ў Мінску. Спадзяемся, што яна ўмацавала наша сяброўства з юнымі парафіянамі з Чырвонага касцёла.

*Адась Чаронка, фота Мікалая Новікава.*





# Міністранты, кандыдаты

— Хто гэта такія, з бела-блакітнымі стужкамі? — запытала ў мяне жанчына, што ішла побач са мной у працэсіі па вуліцы Росіцы.

— Кандыдаты ў міністранты, — з гонарам адказала я, — яны разам з сябрамі міністрантамі прыехалі з Друі і Друйска.

А ганарылася я тым, што некаторых хлопчыкаў ведаю, сустракалася з імі ў друйскім дзіцячым доме, у касцёле ў Друі. Было вельмі радасна, што яны не пабаяліся зімовай сцюжы і прыехалі, каб паслужыць на ўрачыстым набажэнстве ў Росіцы ў гонар благаслаўлёных росіцкіх мучанікаў Юрыя Кашыры і Антонія Ляшчэвіча. Разам з сёстрамі эўхарысткамі яны правялі прыгожую ружанцовую малітву, у якой удзельнічалі ўсе пілігрымы, служылі ў часе Імшы, а потым разам з усімі прайшлі працэсіяй па Росіцы — на пляц мучаніцтва.

Радасна, што гэтыя хлопчыкі ўжо ўмеюць служыць у Касцёле. І тады, калі ў ім цёпла, утульна ды весела, і тады, калі холадна, а набажэнствы маюць адценне трагічнага мінулага нашай Бацькаўшчыны.

*Ірына Жарнасек.*
*Фота Віталя Царыка.*









# Таямніцы Фацімы

Кожны раз, калі Маці Божая з'яўлялася і размаўляла з дзецьмі, Яна гаварыла ім штосьці вельмі важнае. Яна прасіла перадаць людзям, каб тыя перасталі абражаць Бога грахамі, каб імкнуліся аддзячыць Яму за Яго вялікую дабрыню і цярплівасць. Маці Божая наказала дзецям штодня маліцца на ружанцы, а пасля кожнай таямніцы дадаваць словы: «О мой Езу, прабач нам грахі нашыя, захавай нас ад агню пякельнага, правядзі ўсе душы на неба і асабліва дапамажы тым, каму найбольш патрэбна Твая міласэрнасць».

Вы, сябры, вядома, ведаеце гэтую малітву. Мы яе паўтараем пасля кожнай таямніцы святога Ружанца. Памятайце, што яе нам дала сама Маці Божая. І яшчэ святая Марыя вельмі прасіла маліцца за мір і спакой ва ўсім свеце. Не забывайма, сябры, гэтага наказу!

Нагадваем таксама, што мы дамовіліся з вамі штодня маліцца тры разы *«Вітай, Марыя...»* ў інтэнцыі навяртання свету.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*



# ДАРОГІ СЛАВУТАГА ПАЛАЧАНІНА

Францішак Скарына нарадзіўся ў самым старажытным горадзе Беларусі — у Полацку. На берагах Дзвіны і Палаты праляцела ягонае маленства. Ён вучыўся ў адной са школ пры манастыры і марыў пра больш сур'ёзныя навукі. Дзеля гэтага старанна вывучаў лацінскую мову ў кляштары бэрнардынаў. І неўзабаве хлопец пакінуў родны горад ды вырушыў у няблізкі свет, ажно ў польскі Кракаў. Там ён паступіў у кракаўскі ўніверсітэт, пачаў вывучаць навукі, якія называліся вольнымі мастацтвамі: арыфметыку, геаграфію, музыку, астраномію.

Здольны палачанін вучыўся добра, і хоць яму вельмі падабаліся тыя навукі, ён усё ж прагнуў чагосьці большага. Таму неўзабаве пачаў вывучаць яшчэ і медыцынскія навукі. Прафесія лекара тады была вельмі патрэбная, бо ад цяжкіх хваробаў у часе эпідэмій памірала шмат людзей. Францішак прагнуў дапамагаць ім.

Так ён апынуўся ў Італіі, дзе ў Падуі знаходзіўся ўніверсітэт,

вядомы сваімі вучонымі медыкамі. Францішак звярнуўся да яго кіраўніцтва з просьбай дазволіць здаць яму экзамен па медыцыне. Такі дазвол ён атрымаў, і ў выніку малады наш зямляк стаў першым сярод усходніх славянаў доктарам лекарскіх навук.

Пра гэтую гістарычную падзею вельмі прыгожа напісала наша паэтка Ларыса Геніюш:

*Над Падуяй неба такое наўкруг,*
*як сны мастакоў Адраджэння.*
*Падуя — горад вялікіх навук,*
*славутых падзей і імкненняў.*

*Заціхлі званы, адбылася Імша,*
*зноў спевы гучаць на лаціне.*
*Дыплом уручаюць: ён сын Лукаша,*
*палачанін, Францішак Скарына...*

Дыплом атрыманы. Францішак можа цяпер працаваць, ратаваць людзей ад цяжкіх хваробаў, мець вялікія грошы. Але ягоную душу трывожаць неадчэпныя думкі пра



тое, што на ягонай Бацькаўшчыне так мала адукаваных людзей. Ды і як ім з'явіцца, калі ягоныя землякі не маюць ніводнай друкаванай кнігі! Рукапісныя ёсць. Некаторыя з іх старанна перапісвала ягоная зямлячка, слынная палачанка Еўфрасіння Полацкая, за што ёй гонар і пашана. Але ж як добра было б, калі б людзі нарэшце атрымалі друкаваныя кнігі і пачалі іх чытаць...

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

*Працяг будзе*
*ў наступным нумары.*



## Заданне

Выпішы з гэтай карцінкі асобна літары кожнага колеру. Калі правільна іх складзеш, то прачытаеш назвы гарадоў, у якіх жыў, вучыўся і працаваў Францішак Скарына.





# Гульні Загадкі



## ЗАГАДКІ З БІБЛІІ

Тэма гэтага нумара часопіса — пакаянне, споведзь. Таму, зразумела, і загадкі нашы таксама па гэтай тэме. Тым больш, што менавіта на пакаянне, прабачэнне, імкненне выправіць учыненае зло Езус настойліва звяртае нашу ўвагу ў Евангеллі.

- Назавіце героя Евангелля, які яшчэ да пачатку служэння Езуса Хрыста заклікаў людзей да пакаяння. Дзе гэта адбывалася?
- У першы дзень Вялікага посту, калі святар пасыпае нам галовы попелам, ён можа казаць: «Кайцеся і верце ў ...» (дапоўніце прапушчанае). Чые гэта словы? Як вы думаеце, чаму так важна пачуць іх менавіта ў гэты дзень?
- «Каму адпусціце грахі, таму будуць адпушчаныя; на кім пакінеце, на тым застануцца» (Ян 20,23). Каму Езус сказаў гэтыя словы? Хто выконвае гэты наказ цяпер?
- «... памёр за ... нашыя» (1Кар, 15).
- «Калі брат твой ..., дакары яго, а калі ..., ... яму» (Лк 17).
- На крыжы Езус прыняў пакаянне аднаго чалавека. Каго? І што Ён паабяцаў яму?.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

## Лабірынт

Дапамажы Езусу знайсці згубленую авечку



Адказы на **Загадкі, змешчаныя ў № 4 за 2017 г.**

**«Загадкі з Бібліі»:** Езус Хрыстус, «Прасіце, і будзе дадзена вам; шукайце, і знойдзеце; стукайце, і адчыняць вам», «Хвала на вышынях Богу, а на зямлі спакой людзям добрай волі», Арханёла Габрыэля і святой Альжбеты, праз святую Фаўстыну, прыпавесць пра фарысея і мытніка (Лк 18, 10—12).

Правільныя адказы даслалі: **Аляксей Томкавіч** з Вілейкі і **Маргарыта Ясэпкіна** з Полацка.

**Рэбус:** малітоўнік.

**Адгадай:** Полацк.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*



# Крыжаванкі

## ЦІ ВЕДАЕШ ТЫ СВАЮ КРАІНУ?

## ВОДГУК НА ГОЛАС З ДАЛЕКАЙ ПАРТУГАЛІІ




Ты бачыш на гэтых здымках выявы касцёлаў у Беларусі. Дзе яны знаходзяцца і што іх аб'ядноўвае?











## Смяшынкі-Весялінкі

**Ведаю яе**

Янка просіць маму:

— Мама, дай рубель для адной беднай жанчыны, што стаіць на вуліцы, каля крамы.

— А што гэта за жанчына? Ты ведаеш яе?

— Так, ведаю. Я ў яе часта купляю марожанае.




## РЭБУС

Калі правільна разгадаеш рэбус, то прачытаеш назву мэблі, якая абавязкова павінна быць у кожным касцёле.

























*Рубрыку вядзе*
*Марыя Ганчаронак*

*Нашы рукі да працы гатовы*

# Зрабі паштоўку

Сябры!

Набліжаецца Вялікдзень! Я вельмі люблю гэтае свята. Спадзяюся, і вы таксама. У гэтыя радасныя вясновыя дні вернікі становяцца вясёлымі і шчаслівымі. Мы нават вітаем адзін аднаго інакш, абвяшчаючы і нагадваючы адзін аднаму пра перамогу нашага Збаўцы Езуса Хрыста над смерцю.

— Хрыстос уваскрос! — радасна выгукваем мы пры сустрэчы.

— Сапраўды ўваскрос! — чуем тады не менш радаснае ў адказ.

Мы віншуем адзін аднаго і жадаем вясёлых святаў, Божага благаслаўлення, Божай радасці. А тых нашых сяброў і знаёмых, якія жывуць далёка, прынята віншаваць святочнымі паштоўкамі. І ведаеце, сябры, я заўважыла, што найбольшую радасць прыносяць паштоўкі, зробленыя сваімі рукамі.

«Як гэта? — спытаеце вы. — Хіба мы можам так прыгожа намаляваць паштоўку?»









А вось жа і можам! Проста для гэтага трэба не паленавацца і творча папрацаваць. Дык за справу!



**Нам спатрэбяцца:**

- каляровы картон;
- нажніцы;
- клей;
- лінейка;
- розныя рэчы для дэкору: стужкі, стразы, бліскаўкі, гузікі, старыя паштоўкі і... абавязкова — фантазія

Ну а цяпер за працу! Памятаем, што неабходны сімвал Вялікадня — каляровыя яйкі. Ну і хто, скажыце, не сумее выразаць і ўпрыгожыць яйка? І не бойцеся фантазіраваць, эксперыментаваць! Паверце: варта толькі ўзяцца за гэтую справу, як фантазія пачне працаваць вельмі хутка.

Вось, напрыклад, што атрымалася ў мяне. Хоць гэта яшчэ не ўсё, бо ў мяне вельмі шмат сяброў, якім трэба будзе пасылаць паштоўкі. Вам жа я паказваю іх як прыклад таго, што можа атрымацца, калі не ленавацца. Смешных жоўценькіх куранятак, зайчыкаў, кветкі, зялёную траву і г.д. — усё гэта і шмат чаго іншага можна таксама змясціць на віншавальных паштоўках. Але памятайце: галоўнае, каб там было сцвярджэнне, што Хрыстос сапраўды ўваскрос!








# Знаёмцеся

Чым адрозніваецца«святое» яйка ад «несвятога»?Хто можа прайсці праз зачыненыядзверы? Для чагоў касцёлезбіраюццагро-шы? Хто стварыў Бога?

Так шмат самых розных пытанняў..Ксёндз Ян Твардоўскі, які за сваё жыццё напісаў мноства



## Малітва марнатраўнага сына

За пярсцёнак, сандалі і плашч,
якім атулюся, нібыта парусам,
дзякую, татка…
За неба ў паглядзе тваім
і за цялятка.

## Скруха марнатраўнага сына

Мая віна, мае віны,
абскублі мяне дзяўчыны.

# — новая кніга

кніжак для дзяцей, на многія такія пытанні паспрабаваў адказаць у кнізе **«Кубак з адным вухам»**. Кніжку гэту пераклала з польскай мовы для беларускіх дзяцей Ганна Шаўчэнка, ілюстрацыі намалявала Вольга Чарняўская, выдавецтва «ПРО ХРЫСТО» выдала яе ў мінулым годзе, а набыць яе можна ў кнігарні «Духоўная кніга» (Мінск, в. Багдановіча, 25, тэл. 293-17-53).

Раім вам, сябры, абавязкова набыць яе і пачытаць. А можна наватнейкі верш з яе вывучыць на памяць!

Гэта не значыць, што пытанняў тады ў нас паменее. Але, магчыма, мы будзем часцей знаходзіць на іх самыя нечаканыя адказы.

А пакуль... Вось тры вершы з кнігі Яна Твардоўскага на тэму гэтага нумара.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

## Малітва яго брата

Даруй мне, татка, што я так злаваўся  
на свайго наіўнага брата,  
які дзяўчынкамі абскубаны, бы пеўнік чубаты.  
Без новага плашча, сандаляў, пярсцёнка я проста  
цярплю, як сабака бясхвосты.





У афармленні матэрыялаў нумара прымалі ўдзел юныя мастакі з ДУА «Гімназія-каледж мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка» (майстэрня Г. Хінкі-Янушкевіч).